на ўсім фронці між гарамі і Дунаем адступаючых ворагоў. У удачных бітвах яны дайшлі да лініі Віцыруль—Сутэсті—Слобопія (на палавіне дарогі з Румніку-Сарат у Плагінэсті).

*Македонскі фронт*: Невялікіе патрульные сустрэчы ў даліне Струмы.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА 28.XII. **Усходні тэатр**: (гл. нямецкае апав.).

**Італьянскі тэатр:** Без выдатных прыпадкоў.

ВЕНА 29.XII. **Усходні тэатр**: (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр**: Учора на плоскагоры Карст агонь італьянскай артылеры быў жывейшы. У даліне Віппаха адзін наш ваенны лятун збіў самалёт ворагоў.

ВЕНА. 30.XII. **Усходні тэатр**: (гл. ням. апав.).

**Італьянскі тэатр**: Нічога новага.

### Сьмерць лятуна.

БЭРЛІН. Паручнік Лефэрс загіб сьмерцю героя ў бітве на паветры.

Гэта быў адзін с самых выдатных лятуноў і кавалер ордэру «Pour le Merite».

### Палажэньне у Англіі.

ЛОНДОН. Ніжняя Палата. Новы міністэр сельскай гаспадаркі сказаў: „Палажэньне—сур'ёзнае, бо мы, шчыра кажучы, знаходзімся ў горадзі як бытцым у асадзі“. У канцы прамовы міністэр сказаў, што засеяные жытам і бульбай паля Англіі перэважаць у развязцы пытаньня аб пебедзі ці разгромі ў гэтай вялікай вайне.

### У Грэцii.

АФІНЫ. Усемі цыклядскімі астравамі цяпер упраўляюць чыноўнікі, назначэные правіцельствам Вэнізэлоса.

## Вайна да канца!

БЭРЛІН. Нямецкі Імператар выдаў прыказ да арміі і флоту, ў якім, між іншым, гаворыцца:

„Вы—пабедзіцелі на ўсіх ваенных тэатрах на сушы і на моры. З ненарушымай верай і гордай надзеяй углецаецца на вас Бацькаўшчына. Безпрыкладны ваенны дух, які пануе ў вашых радах, ваша нязломная воля дайсьці пабеды, ваша любоў да Бацькаўшчыны даюць мне заверэньне, што ў новым годзі пабеда астанецца за намі“.

ЛОНДОН. «Daily Telegr.» даведалася, што атказ саюзьнікоў на нямецкае прэдлажэньне міра напісан у Парыжу. Вільсон атрымае тэкст яго, каб аддаць цэнтральным дзержавам. Тады будзе ясна як для ваюючых, так і для нэутральных гасударств, што німа надзеі, каб саюзьнікі дзеля міра калі-колечы адракліся ад магчымасьці дайсьці пабеды, ўважаючы, што гэткі мір, пакуль будзе трываць ваенная моц Нямеччыны, будзе „нямецьім“ мірам. Атказ будзе вельмі падробны і дасць выясьненьне, дзеля чаго саюзьнікі вядуць вайну; ў ім будуць пастаўлены варункі міра, зусім непадобные да старых заверэньнёў на паперы.

Агенцтво Рэўтэра даведалося, што саюзьнікі абменіваюцца паглядамі на нямецкае мірнае прэдлажэньне. Пастанова аб атказе на амэрыканскую ноту яшчэ ня прынята, і нельга спадзевацца, каб яна была зроблена перш. чым будзе дадзен атказ саюзьнікоў на нямецкае прэдлажэньне.

БЭРЛІН. Розные газэты пішуць, што ў Лондон прыйшла другая нота Вільсона—як дапаўненьне да першай. Яна не адаб'ецца на паглядах саюзьнікоў. Англія пашле свой атказ на мірнае прэдлажэньне цэнтральных дзержаў у суботу. У атказе, наагул, будуць паўторэны заявы Ллойда Джорджа.

## За мір.

КОПЭНГАГА. Даньскае, Норвэжскае і Швэдзкае правіцельствы прылучыліся да выступленьня Вільсона.

Глаўны урад норвэжскага работніцкага саюза паслаў Вільсону гэткую тэлеграму: „Норвэжская соцыал-дэмократія, каторая становіць трэйцю часць выбаршчыкоў, вітае энэргічную работу прэзыдэнта“.

Даньскіе соцыал-дэмократы паслалі Вільсону гэткую тэлеграму: „Даньская соцыал-дэмократія высказывае свой спогад і сваё найглыбейшае жаданьне, каб вашы крокі дайшлі удачы“.

## Спіс ваенна-палонных з нашага краю.

### З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Puchheim.

1 Батальён.

Алешко Александар, Сіродвічы.
Бурлакоў Лазар, Качанік.
Баўтрук Іван, Ніўка.
Белый Мікалай, Дзенісаво.
Белоў Дзімітр, Мільціно.
Бальшовіч Захар, Брусы.
Балдін Сяргей, Леді.
Бісюк Андрэй, Замосць.
Боўшыч Грыгор, Ошмяна.
Дзімітрыеў Грыгор, Князэй.
Дашкевіч Аляксей, Дзем'ян.
Дзевятнікоў Ілья, Ушткі.
Дыдлеўскі Піліп, Манькоўцы.
Грыгель Ілья, Льдоцы.
Гарневіч Пётр, Вільня.
Горышын Васіль, Догаса.
Грюк Мікалай, Яново.
Лабкоўскі Іван, Белеўцы.
Пакладок Лука, Цякінцы.
Парчуч Якаў, Задвор'е.
Панковіч Александар, Заполье.
Плотнікоў Вавіла, Вешкі.
Папоў Язэп, Почынок.
Скрыпка Марк, Колпеўцы.
Снапок Ігнат, Вінаградоў.
Шлінгель Язэп, Навасёлкі.
Цімафееў Аляксей, Лашово.

3 Батальён.

Якоболеў Сяргей, Роскоты.
Касоль Іван, Ортубок
Поркалоў Іван, Узурово.

5 Батальён.

Захароў Тодар, Кукляны.
Адамоў Пётр, Рублі.
Бузэнкоў Нэстор, Сьвір.
Камкоў Лазар, Дзімеліка.

### Табор для ваенна-палонных Tuchel.

Белюс Барыс, Вільня.
Новіцкі Бальтазар, Бэйнашэ.
Якроіч Станіслаў, Мачучы.
Раўдіс Мацей, Гэрыканцы.
Міленскі Вігенд, Мэрэч.
Высоцкі Гіполіт, Просы.
Плубянка Адам, Кляшэ.
Баневіч Александар, Вілейка.
Сінкевіч Болеслаў, Вільня.
Кіндур Альбін, Лінтманы
Вашчылоў Міхаіл, Васілішкі.
Вішнеўскі Броніслаў, Сьнега.
Кавалевіч Іван, Парэччэ.
Ігнатовіч Антон, Дземечэў.
Пінто Аляксей, Вокане.
Аноп Язэп, Белая.
Камінскі Ігнат, Вусне.
Ацыковіч Грыгор, Чэбаі.
Скурачунак Язэп, Шышкі.
Ігначук Антон, Загоры.
Усьціновіч Ягор, Калодцы.
Цярэшка Пётр, Слабодка.
Мордас Констанцін, Мордасы.
Касмач Грыгор, Хотатаічы.
Башкоўскі Іван, Ганцічы.
Вальковіч Ягор, Варані.
Мірыноўскі Ян, Мэйшагола.
Лебэндзевіч, Вінцэнты, Дямнэкі.
Галавач Іван, Агароднікі.
Гундро Сыльвэстар, Борці.
Сасноўскі Якаў, Вільня.
Стэфановіч Язэп, Почытва.
Станкевіч Станіслаў, Вільня.
Лучын Іван, Свейск.
Сувы Пётр, Забельцы
Болтріс Франц, Коцкаў.
Матуйза Станіслаў, Друскенікі.
Бальмэда Іван, Чэрневічы.
Седзюкевіч Іван, Рыга.
Маслоўскі Юльян, Косьцецізна.
Шынкоўскі Вінцэнт, Пэцмэстэр.

(Далей будзе).










Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.